Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага нум. 40 грошы.

# Беларуская Борць

Адрас Рэдакцыі
і адміністрацыі:
Вільня,
Каралеўская вул. 3—8.

Рэдакцыя адчынена
ў аўторкі і пятніцы
ад 10 да 14 гадз.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
на год . . . . . . . . 2 зл.,
на паўгоду . . . . . 1 „
Заграніцу — удвая даражэй.
Цана абвестак поводле ўмовы.

№ 6

1937 г.

ЗЪМЕСТ:

1) Крыху аб культуры і поступе.
2) Пчалярства: Апошні агляд пчол на зіму. Каляндар пчаляра.
3) Садоўніцтва і агародніцтва: Лістапад у садзе. Калі абразаць карону дрэўца пасаджанага ў восені. Дагляд маладога саду. Выкарыстоўвайце мейсцы пад сьценамі будынкаў. Хрэн і яго гадоўля. Каляндар агародніка.
4) Жывёлагадоўля: Значэньне сьвінагадоўлі ў гаспадарцы.
5) Гігіена і мэдыцына: Гігіена груднога дзіцяці.
6) Вэтэрынарыя: Заразьлівыя хваробы жывёлы.
7) Жаночая старонка: Ашчаднасьць. Капуста на зіму.
8) Куток наймалодшых: Другі ліст птушак да дзяцей.
9) Пытаньні і адказы.
10) Паштовая скрынка.

Беларуская Борць

№ 6 ЛІСТАПАД 1937 г. ГОД VI

# Крыху аб культуры і поступе

Культура вёскі, поступ у земляробстве — гэта пытаньне, якім прысьвечываецца зараз шмат увагі. У розных часопісах, у розных дакладах можна спаткацца з ім. Але ўва ўсіх спатыканых на гэтыя тэмы разважаньнях даецца адчуваць, што справаю цікавяцца і займаюцца галоўным чынам розныя апякуны вёскі. Самадзейнасьць самой вёскі, яе погляд на справу, на жаль сустракаюцца вельмі рэдка. Шырэйшыя кругі вясковага насельніцтва — сяляне мала прыймаюць у гэтым удзелу, рэдка падаюць свой голас у гэтых датычучых іх справах. А трэба прызнаць, што пытаньні культуры і поступу ў земляробстве належаць да справаў першараднага значэньня і зацікавіцца імі, узяць, як мага, удзел у іх вырашэньні, павінен кожны, хто толькі жадае добра сабе і свайму народу.

Калі гаварыць аб культуры наагул, трэба мець на ўвазе дзьве яе галіны: адна — гэта культура матарыяльная, другая — культура духовая. Культура матарыяльная, у адносінах да земляробства, гэта пытаньне падняцьця дабрабыту земляроба - селяніна. Сюды адносяцца пытаньні аб спосабах і формах вядзеньня земляробскае гаспадаркі, аб мэтадах і арганізацыі працы, аб вонкавых формах асабістага жыцьця селяніна і розныя іншыя, паводле каторых можна разважаць аб дабрабыце і аб тым, як жывуць ня толькі паасобныя сяляне-земляробы, але і ўся іх кляса Усякае палепшаньне ў гэтай галіне будзе сьведчыць аб поступе. Наладзіць земляроб сваю працу, падвысіць яе выдатнасьць, ці палегчыць яе, палепшыць абробку зямлі праз застасаваньне лепшых прыладаў, штучных угнаеньняў і г. д. палепшыць гатунак атрыманага прадукту, завядзе лепшую заводную жывёлу,—усё гэта будзе сьведчыць аб палепшаньні яго гаспадаркі, аб паправе яго матарыяльнага быту, гэта будзе поступам у галіне матарыяльнай культуры.

Чалавек працуе і кіруе сваімі гаспадарчымі справамі і зьяўляецца галоўным дзейнікам, ад якога залежыць поступ у гаспадарцы. Чалавек цёмны, не асвечаны, хоць і адчувае патрэбу застасаваньня таго, ці іншага палепшаньня ў гаспадарцы, але ня здолее зрабіць гэтага найпрасьцей і найлягчэй і не атрымае ў выніку таго, што будзе мець той, хто вучыўся і навучыўся гаспадарыць.

Навука, якая працуе ў розных галінах чалавечага жыцьця, робіць розныя досьледы і ў кожнай галіне працы чалавека. Праўда, не заўсёды навука працуе на карысьць чалавека. Часта досьледы навукі бываюць пакіраваныя на шкоду чалавека і на яго зьнішчажэньне, але там, дзе гэтая навука глыбака пранікае ў гушчы народныя, то яна зьяўляецца памошні-

кам чалавека ў яго працы, бо там досьледы навукі будуць скіраваны на вышуківаньне спосабаў да палягчэньня працы чалавека. Працуе такая навука і ў галіне земляробства. Розныя дасьледчыя станцыі, якія можна ўсюды спатыкаць, робяць розныя спробы, розныя досьледы, вынікі якіх праз школы, кніжкі і часапісі аддаюць да агульнага ўжытку, з мэтаю выкарыстаньня іх у штодзеннай працы. Чалавек, які цікавіцца досьледамі навукі, які арганізуе адпаведна сваю гаспадарку, які цікавіцца як гаспадаруць іншыя народы з вышэйшай земляробскай тэхнікай, такі чалавек ня толькі палепшыць сваю гаспадарку і свой дабрабыт, але будзе служыць прыкладам для сваіх суседзяў і гэтым прычыніцца да поступу і падняцьця культуры. Такім чынам супольная і згодная праца навукі і земляробаў практыкаў,—вось неадзоўны варунак поступу ў земляробстве.

Другі неадзоўны дзейнік да падняцьця культуры вёскі — гэта стварэньне варункаў, якія маглі-б спрыяць справе. Селянін на сваіх вузкіх загонах ня можа вясьці культурнае гаспадаркі, ня здолее застасаваць найнавейшых мэтадаў гаспадараваньня. Патрэбна дзеля гэтага справядлівае вырашэньне зямельнага пытаньня, выходзячы пры гэтым з залажэньня, што асновай культуры вёскі зьяўляецца ня буйнае землеўласьніцтва, а моцны гаспадарча селянін.

Трэба пры гэтым памятаваць, што поступ у земляробскай тэхніцы не разьвязвае яшчэ пытаньня матарыяльнай культуры вёскі. Чалавек павінен ня толькі культурна гаспадарыць, але і мець выгляд культурнага чалавека. Культурны чалавек павінен клапаціцца аб палепшаньні і свайго вонкавага выгляду, аб чысьціні і гігіенічным стане сваей хаты, сялібы і г. д. Для гэтага трэба знаёміцца, як жывуць іншыя культурныя народы; што кажа ў гэтых справах навука.

З усяго гэтага відаць, што чым больш асьвечаны будзе народ, тым з вялікшым поступам будзе вясьціся ягоная гаспадарка, і тым вышэй будзе стаяць яго матарыяльная культура.

Калі поступ у культуры матарыяльнай узалежніваецца ад пашыранасьці асьветы ў шырэйшых кругах народу, дык тым большае значэньне мае асьвета ў галіне культуры духовае, бо толькі праз асьвету можна ўзгадаваць чалавека, падняць яго маральную і духовую вартасьць,ператварыць эгоістычную (самалюбную) адзінку ў вартасьцёвага і карыснага чалавека і грамадзяніна Поступ у галіне духовае культуры залежыць ад пашыранасьці асьветы ў шырокіх кругах народу, ад пашыранасьці сярод яго добрай кніжкі, ад прышчапленьня яму патрэбы культурнага жыцьця, культурных разрывак, як тэатр, кіна, радыё і г. д. Гэта галіна працы культурна-асьветных арганізацыяў. У гэтай галіне, трэба прызнацца, перад намі стаіць непачатая праца. Тут у першую чаргу трэба зьвярнуць увагу на нашую моладзь і накіраваць яе па шлях самаўзгадаваньня і культурнага жыцьця, бо з гэтага боку нам пагражае найвялікшая небясьпека. Але ня маючы сваіх адпаведных арганізацыяў, якія маглі-б арганізавана вясьці гэтую справу ў роднай мове, бо толькі ў гэтай мове народ можа найлепш пазнаць асьвету і культуру, трэба вясьці справу саматугам, трэба даваць раду самім сабе ў рамках магчымасьці. Найвялікшы абавязак ляжыць тут на тых, што здолелі ці то ўласнымі сіламі, ці як інакш, падняцца на вышэйшую ступень культуры. Яны павінны парупіцца аб тым. каб даць. перадусім нашай моладзі, тую страву, ад якой залежыць духовае разьвіцьцё чалавека

г. зн. даць добрую карысную кніжку і навучыць карыстацца гэтай кніжкай. Гэта абавязак кожнага чэснага грамадзяніна, кожнага сына свайго народу. Гэта экзамен нашае грамадзкае сьпеласьці.

## Пчалярства

# Апошні агляд пчол на зіму

У папярэднім нумары мы падавалі рады, як падгатаўляць пчолы на зіму. Гэта работа ўжо павінна быць скончана і пчаляр мусіць зарадзіць, каб пчолы як найлепш перазімавалі. А гэта будзе тады, як у вульлі будзе і ня холадна і ня горача ды ніхто пчол зімой ня будзе трывожыць: ні мышы, ні іншая жывёла, як сьвіньні, каровы і г. д.

Каб ня было холадна, то за заставуною дошкаю ў вульлёх Лявіцкага і варшаўскіх з аднаго канца ад дзьверак, а ў Дадана з абодвух канцоў пустое месца трэба запакаваць мякінаю, сухім мохам, кастрыцаю, сухім лісьцём або саломаю. Зьверху накрыць або падушкамі, адумыслова для гэтага зробленнымі, або кастрыцаю, мякінаю, мохам, ці кавалкамі старой вопраткі. Трэба зазначыць, што шмат накладываць зьверху і ўтоптываць шкодна, бо ня будзе праз гэтую насьцілку праходзіць з вульля сапсутае паветра і пара. А ад гэтага шмат будзе падмору на вясну, завядзецца вільгаць ды ад гарачыні можа быць развальненьне ў пчол, г. зн. панос, пчолы зімой будуць вылятаць з вульля. Некатарыя пчаляры накладываюць на верх шмат сена або саломы. Ня радзім: сена заплясьнее і ад гэтага яшчэ горшае робіцца паветра ў гнязьдзе. А пчолы, як і іншая жывёла, патрабуюць здаровага паветра тым больш, што цэлую зіму ня вылятаюць з вульля.

Калі ёсьць вольнае месца ў хляве (толькі ня з жывёлай), у склепе, ці пад паветкаю, або нават проста пад страхою, то пчолы лепей туды паўносіць. Там ім будзе цяплей ды вульлі ня так будуць гніць. Толькі трэба глядзець, каб у працягу зімы, ніхто ня чапаў вульлёў, ня стукаў па іх; дамовая жывёла ня чухалася аб іх і г. д. Пад прыкрыцьцём пчолам будзе цяплей, ды вятры ня будуць праймаць аж у гняздо.

Калі пчолы зімуюць на двары, то ад ветру добра было-б або прыставіць снапы саломы перад вылетамі, або прыкрыць вульлі яловымі лапкамі.

Далей адносна мышэй. Вось-жа трэба добра абгледзіць, каб у вульлёх ня было дзірак, праз якія маглі-б залезьці ў гняздо мышы: наробяць шмат шкоды. Калі вылеты такія шырокія, што праз іх могуць пралезьці мышы, то іх трэба так звузіць, каб мыш не пралезла: засеткаваць ці ў вылетах паўтыкаць невялічкія яловыя галінкі іголкамі на двор. Толькі само сабою, ня трэба цэсна забіваць вылетаў, каб паветра магло праходзіць.

Аб тым, як рэгуляваць паветра і цяпло ў вульлёх зімой, падамо ў наступных нумарох.

*Я. Шнаркевіч.*

# КАЛЯНДАР ПЧАЛЯРА

## НА ЛІСТАПАД і СЬНЕЖАНЬ.

ЛІСТАПАД:

Забясьпечываць пчолы зімуючыя на дварэ ад птушак і мышэй.

Сьцерагчы, каб галіны дрэў ня стукалі ў вульлі, бо гэта непакоіць пчолы.

Пустыя вульлі і іх часткі схаваць, каб ня гнілі.

Пакуль зямля не замерзла, садзіць медадайныя дрэвы і кусты.

Маючы вольны час, ператапліваць сабраную вашчыну.

Запасныя рамкі з вашчынай адпаведна перахоўваць, каб не напала матыліца.

СЬНЕЖАНЬ:

Пасьля веі ачышчаць выляты ад сьнегу.

Часта слухаць пчол (трубкай) ці ўсё ў іх у парадку.

Праветрываць зімоўкі і рэгуляваць у іх тэмпэратуру.

На зімовыя вечары выпісываць пчалярскія кніжкі і часапісі.




# ЛІСТАПАД У САДЗЕ

Лістапад гэта пара ўгнойваньня саду.. У нашым клімаце ўжо ў пачатку лістападу трэба брацца за гэту работу, бо зямля можа замерзнуць. На ўгнойваньне саду ідзе хлеўны гной, кампост, гнаёўка і попел. З штучных гнаёў на 100 кв. мтр. 4 — 5 кг. азотнікавай супэртомасіны, 5—7 кг. каініту.

Хлеўным гноем і кампостам ўгнойваем так: капаем навакол дрэва роў так далёка ад пня, як далёка сягае карона дрэва, кладзем у роў навоз і закопываем яго. Роў капаем ня глыбокі на 1½ штыха. На гнаёўку прабіваем калом навакол дрэва дзіркі ў такой адлегласьці, як і капаем роў, і заліваем іх гнаёўкай. Попел і штучныя гнаі разсяваем па ўсім садзе. Апрача гэтага ў лістападзе трэба дакладна абчысьціць сад ад пустазельля каб і травінкі ня было, бо ў траве завядуцца мышы і будуць грызьці карэньне. Усялякае лісьцё і плады пад дрэвамі і на дрэвах трэба сабраць і спаліць, бо там сядзяць шкоднікі, таксама трэба сабраць і спаліць усе перавёслы і падвязкі каля калоў бо і там шкоднікаў да ліха.

Паабвязываем маладыя дрэўцы лапкамі, ці інакш забясьпечым ад зайцаў.

І трэба паабрываць лісьцё на маладых шчэпах, каб сьнег іх не паламаў.

# Калі абразаць карону дрэўца пасаджанага ў восені.

Праф. Кэммэр кажа. што калі ў выкапанага дрэўца мы абразаем часьць карэньня, дык трэба зараз-жа абрэзаць і карону, каб зраўнаважыць даплыў і адплыў сокаў. Абрэзаная карона спрыяе хутчэйшаму гаенью ран на карэньні дрэў, якія, пасаджаныя ў восені, яшчэ да зімы пушчаюць валаскаватыя карэньчыкі, а карона вясной пушчае большыя пабегі, як тады, калі-б іх абрэзаць вясной Таксама дрэва з абрэзанай каронай лепш зімуе.

А. ВОЙЦІК

# ДАГЛЯД МАЛАДОГА САДУ

Кожны-б з нас хацеў, каб пасаджаныя дрэўцы хутка прыжылі і добра расьлі. Аднак мала хто аб гэтым клапоціцца і дбае, а добрыя пажаданьні астаюцца пажаданьнямі, бо абы як уторкненае дрэўца і без дагляду, ня гледзячы на найлепшыя пажаданьні, расьці ня будзе.

Перадусім трэба ведаць, што маладому дрэўцу патрэбна вільгаць, цяпло і паветра ў глебе. Усе гэтыя дзейнікі вельмі важныя, важныя дзеля таго, што пры адпаведным утрыманьні культуры ў садзе, вельмі добра дзеюць на ўзрост дрэўцаў. Каб утрымаць вільгаць, цяпло і паветра ў глебе, трэба трымацца наступных правілаў: зямля навакол дрэўцаў павінна быць заўсёды пульхнай і прыкрытай падсьцілкай. У другіх краёх на гэта даўно зьвярнулі ўвагу і яшчэ ў прошлым стагодзьдзі ведамы памалёг Мікалай Гохэр прыкрываў падсьцілкай зямлю навакол дрэўцаў. На гэту думку навёў яго лес, дзе мы бачым зямлю стала пакрытай, то мохам, то лісьцём. Як-жа зямля прыкрываецца?

Навокал дрэўца так шырака, як шырака разраслася карона. Вясной успульхніваем зямлю, ачышчаем ад усялякага пустазельля і даем насьціл таўсьцінёй ня менш 15 цэнтымэтраў і забясьпечываем яго, каб куры ды іншыя хатнія птушкі не разгортывалі. На падсьцілку ідзе мох, бульбеўнік, мяліньне, салома, струкі ад лубіну і г. д.

Гэта падсьцілка ляжыць аж да восені, а ў восені зграбаем яе, сушым і палім. Пакінуць падсьцілку на другі год нельга, бо з ёй мы пакінем і шкоднікаў, якія там схаваюцца на зіму. Калі-ж з тае ці іншае прычыны падсьцілкі няма, дык што тады рабіць, каб утрымаць глебу ў належнай культуры. Трэба тады раз добра перакапаўшы (на адзін штых) зьлёгка паверху ўспульхніваць і ўспульхніваць зямлю навакол дрэўцаў, каб зямля была мяккой, як пух, а пустазельля і сьледу ня было. Калі мы гэтак будзем даглядаць, дык дрэўца за адзін год дасьць мэтр прыросту.

Зьняўшы падсьцілку, зямлю ўспульхніваем і так пакідаем на зіму, а вясной даём сьвежую падсьцілку. Зіма дае сваё натуральнае прыкрыцьцё—сьнег.

# Выкарыстоўвайце мейсцы пад сьценамі будынкаў

У гаспадароў ці гэта будзе ў вёсцы, ці ў мястэчку ці навет у гарадох пад сьценамі будынкаў або зусім нічога не расьце або столькі расьце ўсялякага пустазельля, што аж нельга прайсьці. А пры нашым малазямельлі гэтага не павінна быць. Кожную пядзю зямлі трэба выкарыстаць. У больших гарадох ужо зьвернена на гэта ўвага.

Між іншым гэтакія прысьценкі з боку паўднёвага і заходня-паўднёвага вельмі надаюцца для гадоўлі вінаграду. Адразу можа паказацца, што ў нашым клімаце гэта не магчыма. Аднак-жа мае досьледы і практыка ў працягу блізка дзесятка гадоў паказалі, што гэта зусім магчыма, што гэта нятрудная і ня больш клапатлівая справа, як гадоўля іншых ягад, што яна не вымагае якіхсь нязвычайных практык і ведаў. Даволі, калі зацікаўлены разумее, як гадаваць іншыя ягады: парэчкі, агрэст, маліны і інш. Рожніца будзе толькі ў тым, як перахаваць вінаград праз зіму. Ды гэта зусім ня трудна: прымацоўваецца куст да зямлі, засыпаецца зямлёю, а на зямлю кладзецца салома ці гной, ці сухое лісьцё. Гэта робіцца перад самым замярзаньнем зямлі. Вясной, як адтае зямля, адкрыць куст і прывязаць да сьцяны.

На зямлю вінаград ня выбрэдны: ня любіць толькі мокрага грунту. Угнойваецца таксама, як і іншыя ягадныя кусты. Толькі ў тры гады раз трэба даць пад куст два кілёграмы патоўчанай вапны. Кусьцік пачынае радзіць на трэцьці год. Адно самае важнае тут вось у чым: трэба дабраць такі гатунак, што мусіць дасьпяваць у нашым клімаце. Вось такі гатунак я маю: дасьпявае ў другой палове жніўня і ў першай палове верасьня. Ня было такога лета, каб ён не дасьпеў. Ягады зяленавата-жоўтыя, вельмі салодкія, што праўда драбнейшыя як прывозныя.

Гэты вінаград добра акліматызаваны ў нашым краі, так што яго можна назваць „Віленскім вінаградам“. *Я. Шнаркевіч.*

— —

АД РЭДАКЦЫІ. Зьмяшчаючы вышэй паданы артыкул, рэдакцыя з свайго боку зазначае, што практыка як паважанага аўтара гэтага артыкулу, так і іншых гадоўцаў вінаграду ў Вільні паказала магчымасьць прадукцыі вінаграду ў нашым краі, што некатарыя адмены надаюцца для нашых кліматычных варункаў, што сапраўды трэба выкарыстаць тыя кускі зямлі, якія звычайна нічым не засяваюцца й не засаджваюцца.

Трэба адзначыць, што на ягады вінаграду, якога вялікая колькасьць увозіцца да нас з заграніцы, запатрабаваньне заўсёды ёсьць і цэны нязгоршыя: да 2 зл. за 1 кіляграм,

# ХРЭН І ЯГО ГАДОЎЛЯ

На рынках у местах і мястэчках бачым шмат пучкоў хрэну, якія селяне прывозяць на прадажу. Але гэты „дзікі“ хрэн не знаходзіць ахвотных пакупцоў і асягае зусім малую цану. Зусім іншы выгляд і іншую пакупную вартасьць мае хрэн гадаваны. Як дагэтуль адмысловых гадоўляў хрэну ёсьць ня шмат і даволі вялікія кольха-

сьці гэтага тавару ўвозяцца з заграніцы. Ці ня варта было-б на тых мяйсцох, дзе расьце дзікі хрэн, завясьці яго культурную гадоўлю. Гэта зусім ня трудна і ня рызыкоўна, бо гадоўля напэўна аплаціцца.

Хрэн найлепш удаецца на зямлі багатай ў парахно і ня вельмі пяшчанай, бо тады ён траціць сваю горкасьць. Плянтацыя хрэну закладаецца вясной, але пэўныя прыгатаўленьні трэба зрабіць ужо цяпер у восені. Роўныя, грубіні алавіка карэньні, хрэну трэба парэзаць на кускі 30 цм. даўжыні, вяжэцца ў пучкі і перахоўваецца ў склепе ў пяску да вясны.

Зямлю пад хрэн трэба таксама прыгатаваць у восені. Трэба даць на вызначаны кусок хляўнога навозу (кароўяга) і глыбака загараць, або перакапаць на два штыхі.

Вясной, як толькі зямля абсохне, яшчэ раз перакапаць (ня глыбака), забаранаваць і адзначыць рады на 60 цм. радок ад радка. Прыгатаваныя ў восені карэньчыкі хрэну выняўшы з пяску выціраем моцна кожны паасобку куском сукна, каб зьнішчыць у такі спосаб дробныя бакавыя карэньчыкі, астаўляючы іх толькі на самым коньчыку. Даволі грубым завостраным калком робім на радках скосныя ямкі такой глыбіні, каб верхні канец пасаджанага карэньчыка быў пад зямлёй на 3 цм, а ніжні на 15 цм. Гэтак пасаджаны хрэн мала расьце ў даўжыню, затое моцна грубее. Капаецца хрэн у восені перад маразамі. Капаючы, трэба вельмі старанна выбіраць з зямлі ўсе бочныя адросткі, каб у наступным годзе не засьмечывалі плянтацыі.

Усе найменшыя кусочкі карэньняў хрэну трэба або высушыўшы спаліць, або глыбака закапаць дзе небудзь на дарозе ці на панадворку; кінутыя на гарод ці на кампост, засьмецяць нам гарод бяз ратунку. Л. С.

# КАЛЯНДАР АГАРОДНІКА

## НА ЛІСТАПАД і СЬНЕЖАНЬ.

### ЛІСТАПАД

У садзе:

Перад маразамі канчаць садзіць дрэвы і ягадныя кусты

Зьнімаць з дрэваў і паліць перавяслы са шкоднікамі.

Далей перакопываць зямлю пад дрэвамі, пасыпаўшы апаўшае лісьцё вапнай.

Пасьля першых маразоў зрэзываць прышчэпы і пучкамі закапываць у зямлю, або перахоўваць ў склепе ці варыўні.

Абвязываць маладыя дрэвы саломай і ялаўцом. Бяліць дрэвы яшчэ не пабеляныя,

Стратыфікаваць насевак яблыняў і грушаў.

У агародзе:

Канчаць перакопываньне і загорываньне гароду.

Накрываць конскім навозам або лісьцём рассаднікі і загоны пад раньняе варыва.

Чысьціць сабранае насеньне.

### СЬНЕЖАНЬ;

У садзе:

На сколькі мароз і сьнег не перашкаджаюць канчаць не закончаныя ў лістападзе работы.

Пераглядаць перахоўваныя фрукты.

У агародзе:

Чысьціць і праветрываць насеньне.

Кампосты, пакуль не замерзьлі і сьнегу яшчэ няма перакладаць і раўняць кучы.

---

У зімовыя вечары знаёміцца з агародніцкай літэратурай.

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## ЗНАЧЭНЬНЕ СЬВІНАГАДОЎЛІ Ў ГАСПАДАРЦЫ

На Беларусі ў сучасны момант шырака і хутка разьвіваецца сьвінагадоўля. Гэтаму спрыяюць прыродныя і гаспадарчыя ўмовы нашай краіны. Клімат тут параўнаўча мяккі, што стварае добрыя ўмовы для сьвінагадоўлі. Засеў вялікіх плошчаў бульбаю забясьпечвае карміленьне сьвіней. Пасьпяховае разьвіцьцё малочнае гаспадаркі дасьць адкіды, якія вельмі карысна скормліваць сьвіньнямі. Такое разьвіцьцё поруч абедзьвух галін гаспадаркі — малочнай і сьвінагадоўчай — абагаціла заходнія дзяржавы, як, напрыклад, Данію. Бязумоўна, яно прынясе многа карысьці і для нашае сельскае гаспадаркі. Калі ў сялян будуць розныя адкіды ад малочнай гаспадаркі, яны лепш за ўсё могуць скарыстаць на корм сьвіньням.

Сьвіньня — самая лепшая жывёла ў сэнсе атрыманьня ад яе мяса і сала. Так, калі сьвіньнёю скарміць 4 кг збожжа, можна атрымаць 1 кг мяса і сала, а карова і аўца 1 кг сала і мяса дасьць толькі з 8—10 кг зерня. Пры гэтым убойная вага сьвіньні складае 75–85 проц. а каровы—40–50 проц. жывой вагі. З другога боку, сьвіньня есьць усё тое, чаго другая жывёла на есьць, як, напрыклад, розныя гаспадарчыя, кухонныя ды іншыя адкіды, Сьвіньню вельмі карысна гадаваць і карміць яшчэ таму, што яна праз 10 –14 месяцаў, калі яна добрай пароды і правільна ўзгадавана, можа пагуляць. Сьвіньня можа парасіцца на год два разы і прыводзіць па 18—20 парасят. Праз 6—7 месяцаў добрая сьвіньня дае 80—90 кг жывой вагі. Такія сьвіньні прадаюцца для маласоленае шынкі (на бэкон) па дарагой цане.

На Беларусі сьвіней гадуюць усюды. Праўда, гэтыя сьвіньні часта дрэннага заводу, і не заўсёды іх можна карміць на бэкон, каб прыгатаваць з іх ангельскую маласоленую шынку (бэкон), якую можна было-б прадаваць за межы. Нашым сялянам трэба заводзіць і гадаваць, побач з сваімі простымі сьвіньнямі, кныроў ангельскай белай буйнай пароды. Мяшанцы гэтых сьвіней з мясцовымі даюць той тавар, які мы можам па дарагой цане прадаваць за межы пад назовам бэкон.

Ведама, заводных сьвіней разводзіць на плямя цяжэй, як простых. На расплод завадных сьвіней трэба купіць спачатку парасят — чатырох-шасьцітыднёвых. Меншых парасят на расплод купляць ня варта, бо яны бяз матчынага малака растуць горш, як пад маткаю. Замяніць-жа малако маткі іншым кормам нельга.

Купляючы парасят на племя трэба выбіраць здаровых, на таўстых нагах, з шырокаю роўнаю сьпіною, з роўным задам, круглых і зграбных. Парасят слабасільных, якія, прабегшы крыху, зараз-жа кладуцца адпыхаць, купляць ня трэба. Такія парасяты занадта сы-

тыя, надта далікатныя і на расплод ня прыдатны. Ніколі ня трэба думаць, што толькі кірпатыя парасяты – гэта заводныя. Гэта ня так. Заводныя парасяты павінны мець просты лыч, каб ім лягчэй было дыхаць.

З аднаго гнязда ніколі ня трэба купляць на плямя горшых парасят, хоць-бы яны і былі таней. З такіх парасят выгадаваць добрых сьвіней нельга. Двухмесячнае заводнае парася павінна важыць 10—12 кг ці нават 12—15 кг.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на здароўе парасят. Калі ёсьць хоць якое-небудзь падазрэньне, што парася хворае, яго ніколі ня трэба купляць на плямя. Хварэюць больш за ўсё парасяты на слабых нагах, з слабымі касьцямі. Здаровыя парасяты павінны мець здаровы выгляд, быць жвавыя і вясёлыя.

Але купійшы добрае парася трэба ведаць, як выгадаваць з яго добрую племянную сьвіньню.

Правільна выгадаваная дарослая матка павінна быць на крэпкіх, нагах, круглая, з поўнаю шырокаю сьпіною, роўным нязьвіслым крыжам і, наагул, выглядаць здаровай. Кныр павінен быць здаравейшы і грубейшы за сьвіньнюматку, інакш ад яго будзе парасят мала і яны будуць дрэнныя. Сялянам, скажам, на тры сьвіньні трымаць кныра нявыгадна, ім трэба яднацца і трымаць супольна добрага кныра на 50—60 сьвіней.

Такія таварыствы могуць засноўваць самі сяляне.

Заводнымі сьвіньнямі трэба па ляпшаць нашых простых сьвіней. Мяшанцаў, як пра гэта ўспаміналася, можна гадаваць на мяса (бэкон) у 80—90 кг жывое вагі ў 6—8 месяцаў. Сьвінак такіх мяшанцаў можна нават пакідаць і на плямя. Кныроў-жа лепш трымаць чыста заводных ці з нявялікаю доляю крыві простае сьвіньні, як мяшанцаў ад першага скрыжаваньня. На плямя з парасят можна пакідаць кныроў ад сьвіньні-мяшанца, калі яна пагуляла з заводным кныром, хоць парасяты ад такое сьвіньні могуць быць і ня ўсе добрыя.

Маладых сьвіней першы раз трэба пускаць гуляць не раней 10 месяцаў, калі сьвіньня добра вырасла. Калі сьвіньня пагуляе раней, яна можа ня зусім сфармавацца і быць недарослай. Пускаць гуляць сьвіньню трэба так, каб яна апарасілася першы раз у цёплую пару, інакш парасяты будуць расьці дрэнна і могуць усе падохнуць.

Пароснаю сьвіньню трэба добра даглядаць, і тады парасяты будуць здаровыя.

Перш за ўсё трэба яе і кныра не закармліваць так, каб яны былі вельмі сытыя. Такія сьвіньні заўсёды парасят прыводзяць мала і дрэнных. Ня трэба такім сьвіньням даваць многа бульбы, ад якой яны вельмі сыцеюць. Як правіла, трэба сьвіней заўсёды выпускаць на волю, — тады яны адчуваюць сябе здаравей.

---

**Зімовы час вольны ад цяжкой працы, выкарыстайце на самаасьвету, як агульную так і гаспадарчую.**

# ГІГІЕНА і МЭДЫЦЫНА

## Гігіена груднога дзіцяці

Калі для сталага чалавека гігіена — дагляд здароў'я, — рэч першараднай вагі, дык для дзіцяці яна мае яшчэ куды большае значэньне. Рэч усім ведамая, што якое выгадуем дзіцё, такі будзе з яго і сталы чалавек. Памылкі, якія зробім пры гадаваньні малога дзіцяці могуць балюча адбівацца пасьля ўва ўсім ягоным жыцьці.

Чалавек родзіцца зусім бязрадны безбаронны, зданы на ласку акружаючаго сьвету. Народжанае толькішто кволае дзіця не патрапіць само нічога зрабіць, не патрапіць здаволіць сваей патрэбы. Каб яно магло жыць, расьці і разьвівацца, патрэбна сталая і пільная апека, сталы дагляд. У першыя дні, тыдні і месяцы свайго жыцьця дзіця мусіць прывыкнуць, прытарнавацца да жыцьця ў новым нязнаным яму сьвеце, пры гэтым малы і кволы яго арганізм лёгка паддаецца шкодным навакольным уплывам — неадпаведнай тэмпэратуры, неадпаведнай ежы, усякім пашкоджаньням і рознай заразе. Задачай маткі, ці тых, хто яго даглядае, ёсьць атуліць у гэтую пару гэтага малога чалавека такой рупнай апекай, каб як мага зьменшыць усякія шкодныя ўплывы і недапусьціць да хваробы, калецтва ці іншай шкоды для арганізму.

Праўда, — пры сучасных бедах і недастатках дзеці шмат каму ўжо перасталі быць „шчасьцем“, „багаславенствам божым“, а сталіся цяжкім клопатам для сям'і. Але калі ўжо дзіця радзілася, дык усё-ж, нават пры найгоршай нястачы, трэба яго даглядаць як найпільней, як найакуратней. Бо з закінутых з негадаваных адпаведна дзяцей можа вырасьці калека на ўсё жыцьцё — цяжар на ўсё жыцьцё і для сям'і і для народу.

Ня можна закінуць беларускай матцы нястачы адданасьці свайму дзіцяці. На вёсцы часта матка недаядае, адбірае сабе ад губ страву, каб хаця крыху дагадзіць дзіцяці Але часта, ізноў-жа, **ня ўмее**, як гэта рабіць. І той-жа, адабраны сабе кусок, можа пайсьці не на карысьць дзіцяці, а нават на шкоду, калі мы ня будзем заўсёды пільнавацца пэўных правілаў чысьціні, акуратнасьці — **правілаў гігіены**.

Дзеці негігіенічна гадаваныя лёгка могуць захварэць і памерці, або блага растуць і разьвіваюцца, вечна хваравітыя, хірэюць, і трэба многа выдаткаў на дохтара і лекі, як малому, так і пазьней дарасламу. З такога дзіцяці часта вырасьце не здаровы, поўнавартасны чалавек, а слабы, кволы, недалужны ці нават калека.

Помнячы гэта, хай кожная беларуская матка і кожны хто гадуе дзяцей, атуліць іх — для сваей-жа собскай карысьці — з першых дзён жыцьця, якнайбольш пільнай апекай, так патрэбнай малому, кволаму чалавеку—дзіцяці.

Тутка цяпер будзем коратка разглядаць справу гігіенічнага гадаваньня дзіцяці ў першым годзе ягонага жыцьця.

Прынята ў мэдыцыне называць дзіця праз першыя два тыдні яго-

нача жыцьця навародкам. Калі-же пупок загоіцца і наагул яно ўжо крыху прывыкне да навакольнага сьвету, ад канца другога тыдня, да канца першага году жыцьця, завём его грудным дзяцём.

Завём яго так таму, што яно жывіцца тады спачатку толькі, а пасьля перадусім малаком маткі— ссець грудзі. Гэтая пара ў жыцьці дзіцяці азначаецца вельмі скорым ростам і разьвіцьцём, а справай маткі ў гэтую пару ёсьць,— каб не затрымліваць гэтага разьвіцьця, — рупіцца аб асабліва акуратным і здаровым кармленьні дзіцяці і чыстым гігіенічным яго ўзгадаваньні [1]).

Гігіена навародка. Адразу па нараджэньні дзіця вельмі чулае на холад і таму адразу трэба яго акутаць, а потым выкупаць. Першае купаньне трэба рабіць у цёплай, добра нагрэтай хаце, блізка печы. Ватай змочанай у аліве трэба змыць зьверху пладовую мазь. Далей цёплай перагатаванай вадой трэба вымыць тварык, прамыць вочкі і ў кожнае ўпусьціць па аднэй каплі 2% аз тнага серабра (Argentum nitricum). Кноцікамі з ваты трэба вычысьціць нос, вушы, заглянуць у роцік і ў выпадку патрэбы абмыць сьлізьніцу квачом з ваты (накручанай на шчэпку ватай), ніколі пальцам. Парошшую валасамі часьць галавы і ўсё цела трэба намыліць, пілнуючы, каб мыла заходзіла і ў глыбейшыя хвалды скуры (на шыі, пад пахай, у пахвіне і інш.) і тады асьцярожна апускаем дзяцё ў пасудзіну з цёплай (каля 37°) перагатаванай вадой; мыла спалосківаем і дзяцё укручываем у нагрэтую посьцілку.

Пасьля купаньня трэба яшчэ раз спраўдзіць, ці добра падвязаная пупавіна, і калі трэба, тужэй заціснуць завязку, абмыць пупавіну чыстым сьпіртам, перасыпаць дэрматолем, укруціць у сухую стэрылізаваную газу (або чыстае палаценца), палажыць на жывоціку перагнуўшы ўверх і забандажаваць. Пасьля перавязкі трэба надзець чыстую бялізну і скора спавіць.

З гэтай пары дзіцяці ня купаем а толькі абмываем да таго часу, пакуль адваліцца пупавіна і загоіцца на пупку рана. Пупавіна сохне за некалькі дзён, а адваліваецца звычайна пасьля тыдня. Кожны дзень, аж пакуль рана на пупку не загоіцца, трэба рабіць перавязку. Рану гэтую перамываем ватай мочанай у сьпірце, сушым, ляпісуем малым квачыкам з ваты 2—5% рашчынай азотнага серабра, перасыпаем дэрматолем, прыкрываем стэрылізаванай газай (чыстым палаценцам — не ватай!) і бандажуем. Пры перавязцы трэба старацца, каб лекі праходзілі і ў глыбейшыя часьці пупка, а ня былі толькі зьверху.

Пад канец другога тыдня пупок павінен быць ужо зусім загоены і тады дзіцё канчае першую пару свайго жыцьця, перастае быць навародкам, а становіцца грудным дзяцём.

*Вітаўт Тумаш.*

---

[1]) Ёсьць беларуская малая, але добрая і танная кніжачка аб гадаваньні дзіцяці: Dr. Br. Turonak. Higijena uzhadawańnia dziciaci. Wilnia 1928 h. Можна купіць яе ў кожнай беларускай кнігарні.

Кароткі агляд гігіены навародка і груднога дзіцяці які будзе далей надавацца ў „Бел. Борці" напісаны на падставе выкладаў праф. В. Ясіньскага на Віленскім Унівэрсытэце і на падставе ўнівэрсытэцкага падручніка, зборнай працы „Choroby dzieci" Warszawa 1936 h.



# Вэтэрынарыя

## ЗАРАЗЬЛІВЫЯ ХВАРОБЫ ЖЫВЁЛЫ

### Уступ.

Заразьлівых хвароб, якія могуць пашырацца, пераходзячы ад аднае жывёлы да другое, даволі многа. На адны з іх можа хварэць уся сельска-гаспадарчая жывёла, як напрыклад сухоты, шаленства і інш., а другія сустракаюцца толькі ў аднаго якога роду жывёлы, — толькі ў коняў, ці толькі ў рагатае жывёлы, або ў сьвіней, ці ў авечак. ці толькі ў птушак. Адны з гэтых хваробаў бываюць выключна ў жывёлы, іншыя-ж з іх пераходзяць на чалавека.

Пашырэньне заразьлівых хваробаў сярод жывёлы ня толькі прыносіць у гаспадарцы вялікія страты, але бывае шкодным, а нават і небясьпечным для чалавека. Дзеля гэтага разгледзім найчасьцей спатыканыя і найбольш шкодныя з іх.

### СУХОТЫ.

Сухоты паміж заразьлівамі хваробамі займаюць у нашыя часы амаль што першае месца па сваёй пашыранасьці. На сухоты хварэюць найчасьцей людзі і рагатая жывёла, далей ідуць сьвіньні, птушкі, сабакі, каты, козы, авечкі і нарэшце коні; гэтай хваробе падлягае нават дзікая жывёла і рыбы

Зараз дакладна ведама, што сухотамі можа заразіцца жывёла ад чалавека, і наадварот чалавек ад жывёлы. Небясьпека тут узаемная і вымагае яна барацьбы з гэтаю хваробаю як мэдыцыны, так і вэтэрынарыі, супольнымі сіламі ў інтарэсах абедзьвух старон.

Хвароба гэтая ня лічыцца ні з чым, — ні з узростам, ні з полам, і знаходзіць свае ахвяры ўсюду, дзе толькі знаходзіцца чалавек або жывёла. Яна паволі і няпрыметна падкрадваецца, і часта здараецца, што чалавек, або жывёла, на погляд зусім здаровыя, добра ўтрыманыя, нават тлустыя, носяць у сабе сухотную заразу і могуць пашырыць яе навакол сябе. Сухоты могуць быць у чалавека, або ў жывёлы астаючыся праз доўгі час зусім няпрыметнымі і ня выяўляючыся ніякімі вонкавымі адзнакамі. Гэтая скрытнасьць сухотаў надае ім асаблівую адменнасьць паміж іншымі заразьлівымі хваробамі і спрыяе іх распаўсюджаньню.

Страшны сухоты яшчэ і тым, што яны губяць пераважна маладыя сілы як сярод людзей, так і сярод жывёлы і бываюць ня толькі ў грудзёх, але і ўва ўсіх іншых органах цела,

Як ўжо сказана вышэй, чалавек лёгка можа заразіцца сухотамі ад жывёлы. Ведама, што крыніцамі заражэньня зьяўляюцца ня толькі запляваныя падлогі і сьцены будынкаў, у якіх жывуць, зьбіраюцца людзі, але і малако і мяса ад хворае на сухоты жывёлы.

Ня гледзячы на тое, што ўжо ў законах Майсея было забаронена есьці мяса тае жывёлы, у якой будуць знойдзены адзнакі хваробы лёгкіх (сухоты), у нашы часы на гэта мала зварочваецца ўвагі. Мала яшчэ лічацца з тым, што ня

кожнае малако зьяўляецца бясьпечным, пажыўным прадуктам.

Хворы або дзіця часта кормячыся малаком няведамага паходжаньня, рызыкуюць набыць праз яго сухоты і тым зруйнаваць свой арганізм.

Каб вясьці з пасьпехам барацьбу з гэтым грамадзкім і сацыяльным злом, трэба азнаёміцца ня толькі з прычынамі і аб'явамі гэтае хваробы, але і з спосабамі папярэджаньня і змаганьня з сухотамі.

П-р-ы-ч-ы-н-ы. У сучасны момант ужо дакладна ведама, адкуль паходзяць сухоты. Выклікаюць іх асобныя мікробы — г. зв. сухотныя ці кохаўскія палачкі *).

Мікробы гэтыя найлепш могуць расьці і множыцца пры тэмпэратуры 37° С, інакш кажучы, пры цяплыні цела. Па-за целам жывёлы і чалавека сухотныя палачкі множацца ня так лёгка. Аднак засохшая сьлізь з кохаўскімі палачкамі можа перахоўвацца і быць заразьліваю нават праз тры гады. Затое сонечны сьвет забівае палачку Коха праз 3—10 дзён. Гатаваньне малака на агні пры 65° С. —праз 25 хвілін, а засохшую сьлізь патрэбна награваць у сухім жары, пры 100° праз цэлую гадзіну, каб зьнішчыць заразу. Вэнджаньне і саленьне не саўсім можа забіць яе. У сырым малаку палачка жыве да 10 дзён, у масьле — 45 дзён, у сыры — да 15 дзён.

Мікробы сухотаў хутка множацца ў целе жывёлы. Шмат іх у сьлізі, якая выхарквaецца з лёгкіх, у малаку хворых кароў, у крыві, у мясе, а нават у мачы і ў кале.

Сьлізь гэтая, пападаючы на корм, лёгка можа заразіць кожную іншую жывёлу, а высыхаючы, носіцца яна з пылам у паветры і перадае такім спосабам заразу другім.

Калі ля здаровых кароваў паставіць хворую на сухоты, то хутка сярод кароў многія заразяцца і захварэюць. На цялят хвароба можа перадацца праз малако ад хворае каровы.

Заражэньню спрыяюць яшчэ агульныя дрэнныя ўмовы ўтрыманьня жывёлы, прастуда, раптоўнае ахалоджваньне цела, благі корм і наагул усё, што так ці інакш аслабляе арганізм жывёлы.

Захварэўшая адзінка паступова сохне, і ўрэшце, праз некатары час зусім высыхае, слабее і паміраe ад высіленьня.

Трэба адзначыць, што сухоты—хвароба хранічная (зацяглая) і таму ясных вонкавых адзнак, па якіх можна было-б спачатку распазнаць, што карова хварэе на сухоты, можа і ня быць. Калі карова аслабее ўжо, ці доўга **кашляе**, або калі даўгі час гноіць рэдкім, ці калі прыпухаюць у яе некатарыя, больш павярхоўныя залозы, або калі ў вымі зьяўяцца цьвёрдыя гузы і пачне зьмяншацца малако, тады толькі можна з некатарай пэўнасьцю сказаць, што жывёла хворая на сухоты.

Такі павольны і скрытны ход сухот вельмі ўтрудняе барацьбу з хваробай.

Найбольшую небясьпеку ў гаспадарцы стансвяць каровы з захварэўшым вымем; бо з вымем зараза дастаецца беспасярэдня ў малако, і праз гэта лёгка могуць заразіцца ня толькі цялята, але і чалавек, а асабліва дзеці.

Пры сухотах у вымі звычайна грубее адна чверць залозы, часьцей задняя.

Часамі хворая чверць натолькі павялічваецца, што націскае на суседнія здаровыя часткі вымя і перашкаджае іх нармальнай працы. Разам з гэтым лімфатычная залоза, якая знаходзіцца пад вымям, уця-

*) Д-р Кох—першы знайшоў гэтыя мікробы, дзеля таго яны і азваны яго імем.

гіваецца ў працэс і настолькі часам павялічваецца, што робіцца прыметнаю ня толькі на вобмацах, але праступае праз скуру, як прыметны для вока гузак.

Пухліна хворай чьверці спачатку бывае досыць балючая, але пасьля, калі ўжо зьявяцца гузакі і вузлы, яна робіцца зусім не балючай, нават і пры сьцісканьні.

Малако з захварэўшай чверці спачатку ідзе зусім здаровае, толькі колькасьць яго крыху паменшаецца. Сьцвярдзеньне ў вымі павялічываецца, часамі захоплівае ўсю чверць, якая робіцца цьвярдою, як камень. Тады і малако зьменьваецца, яно робіцца радкаватым, як сыраватка, жоўтаватага колеру і, пры адстойваньні, на дне пасудзіны дае густаваты адстой з прымешкаю гною.

*Паводле І. Серады.*

Доцэнт Гор. Гасп. Акад.

(ДАЛЕЙ БУДЗЕ).

# Жаноцкая старонка

## АШЧАДНАСЬЦЬ

З году ў год дзень 30 кастрычніка на цэлым сьвеце прызначаны на дзень „ашчаднасьці“. У гэты дзень ладзяцца рэфэраты, прадстаўленьні і г. д заахвочываючыя да ашчаджаньня.

Здавалася-б, што ашчаджаць павінен і можа той, хто шмат мае алеж не, няма такога беднага чалавека, які ня меў–бы магчымасьці рабіць ашчаднасьцяў. Бо трэба ўзяць пад увагу тое, што ашчаджаць можна ня толькі грошы, але таксама працу, час, здароўе і г. д.

— Трэба таксама зразумець, што гэта такое праўдзівая ашчаднасьць, бо шмат хто гэтага, нажаль, неразумее. Думаюць, што ашчаджае той, хто морыць голадам сябе і сямью, а ня выдасьць зробленага граша, той хто гэты грош схавае пад бэльку, або за абраз, а ня купіць дзіцяці кніжкі, ды ня выпіша сабе часапісі. Не, гэта ня слушна. Ашчадны чалавек перадусім падумае, ці ня больш карысьці прынясе яму грош р а з у м н а в ы д а н ы, чым схаваны.

І так, калі нехта ашчаджаючы на ежы ўвядзе сябе, ні дзяцей у хваробу, або аслабее так, што ня зможа працаваць—ці гэта разумная ашчаднасьць? Калі хто пашкадуе грошы, каб паправіць гнілую страху, ці гэта ашчаднасьць? Не. Трэба помніць, што ня можна шкадаваць граша на рэчы патрэбныя для падтрыманьня здароўя і да патрыманьня і палепшаньня сваей гаспадаркі У той-жа час трэба шкадаваць грошы на непатрэбную і шкодную для здароўя—гарэлку.

Найбольш дробных на першы пагляд мал значных ашчаднасьцяў можа завясьці жанчына.

Ашчадная жанчына зробіць сабе і дзецям вопратку з моцнага і прыгожага даматканага матарыялу, замест выкідаць грошы на непрактычную выцьвітаючую крамніну.

Ашчадная дзяўчына будзе по-

мніць, што яе хараство залежыць ад утрыманьня каля сябе чысьціні а не ад прац ўных парфумаў, ды псуючых скуру ружаў ды пудраў, на якія нажаль большасьць нашых дзяўчат выдае часта цяжка запрацаваныя грошы.

Ашчадная гаспадыня будзе мець пад рукой адумысловую ганучку да гаршкоў і да сьціраньня стала ды лаваў, але ня будзе ўжываць дзеля гэтай мэты дзіцячай сукенкі або ўласнага фартуха.

Ашчадная гаспадыня, не пашкадуе дзіцяці малака, або яйца, але стараецца ўтрымаць сваю карову так, каб яна гэтага малака давала шмат, або куры завядзе добрыя і так іх дагледзіць, што нясьціся яны будуць амаль ня круглы год.

Ашчадная і рупная гаспадыня ня спіхне галоднага дзіцяці куском сухога хлеба, або поснай бульбай, што разумеецца дрэнна адаб'ецца на яго фізычным разьвіцьці, але выкарыстае кожны кусочак зямлі, кожны куток і нагадуе памідораў, агуркоў, абсадзіць кампост гарбузамі, а сьцены хаты, ды хлявоў, калі ня вінаградам то хоць шальбабонамі (фасоляй) ужыве гэта ўсё на прыгатаўленьне смашной і рознаякай ежы.

Ашчадная гаспадыня, гэта тая, каторая ўмее добра выкарыстаць свой час, каторая разумее, што *найбольшым праступкам проціў ашчаднасьці зьяўляецца марнаваньне часу*. Такая ня стане на вуліцы гутарыць з суседкай, ня будзе марнаваць часу на тое, каб даведацца што хто варыў, або хто з кім пасварыўся. Такая жанчына патрапіць навучыць сваіх дзяцей, што час — гэта грошы, і прычыніцца да таго, што маладое пакаленьне навучыцца нарэшце шанаваць свой час і чужы, чаго цяпер нажаль, ня бачым.

Да ашчаднасьці часу паможа гэтак сама ашчаднасьць працы г. зн. заводжаньня ў гаспадарцы розных вынахадаў і фабрычных машынаў.

Бязумоўна кожная машына напр да шыцьця, да мяса і г. д. каштуе даволі дорага і ня кожны можа сабе на гэта пазволіць, але ў складчыну да супольнага карыстаньня, заўсяды здабыць іх можна. Пры помачы розных — машынаў будзем ашчаджаць працу, час і здароўе. Калі ўся сямья сільная ды здоровая, ашчаджаючы працу ды час мае магчымасьць лішкі іх улажыць у палепшаньне сваей гаспадаркі, якая ізноў дасьць большы доход, то гаспадарачы гэтым даходам разумна і ашчадна сям'я гэтая можа дайсьці да сапраўднага дабрабыту. *Л. В.*

---

# КАПУСТА НА ЗІМУ

Кіслая капуста—гэта вельмі смашны і здаровы прадукт, проста неабходны зімой для чалавека. Капуста ня так вараная, як сырая й сок з яе ўтрымлівае ў парадку жывот і дастаўляе неабходныя для арганізму вітаміны. Але каб капуста, асабліва сырая, чалавеку смакавала, яна мусіць быць добра прыгатаванай. Першым да гэтага варункам зьяўляецца выбар бочкі. Бочка мусіць быць чыстая, ня тухлая, добра выпараная ды вышараваная шчоткай з вадой і содай.

Капуста мусіць быць гэтак сама чыста вымытая і абцярэбляная з зялёнага і гнілога лісьця, Папаўшая ў бочку гніль, можа папсаваць нам усю работу.

Крышыць капусту найлепш на шаткаўніцы, бо выходзіць дробная і роўная.

Солі трэба браць у меру, так

напр. лічым на 1 пуд капусты 1/4 кіля солі.

Дадаткі да капусты, што хто любіць: дадаюць жменьку кмену, морхву пакрышаную на цёрцы ад буракоў, а вельмі добра палажыць у капусту цэлыя, чыста абмытыя яблыкі. Капуста ад іх набірае вельмі добрага смаку, а і самыя яблыкі смашныя і ахвотна ядуцца.

Пакрышаную капусту найлепш перасыпаць сольлю і дадаткамі ў чыстай балеі або начоўках і тады складаць у бочку, ды кожны пласт добра ўціскаць.

Напоўніўшы бочку капустай, кладзем наверх драўляны кружок і каменьне, зьверху накрываем чыстай палатнінай. На другі дзень зьнімаем каменьне, ды перабіваем капусту аж да дна ў некалькіх мяйсцох, каб выйшла з яе горкасьць. Прабіўшы, каменьне накладаем ізноў.

Доўга ў цёплай хаце трымаць капусты ня трэба, бо будзе востракіслая і мяккая, найбольш 4 — 5 дзён. Пасьля гэтага часу выносім бочку ў склеп або ў варыўню, у апошнім выпадку ў сені. Ніколі ня трэба трымаць яе ў хаце, дзе жывём, бо і капуста псуецца і паветра робіцца нездаровым і праціўным. Зімой трэба часта заглядаць у бочку з капустай ды абмываць кружкі і каменьне, а таксама мяняць й перамываць палатніну.

Гэтак прыгатаваная і ўтрыманая капуста добра дахаваецца да вясны і ня страціць свайго добрага смаку. С. Л.

# Куток наймалодшых

## Другі ліст птушак да дзяцей

Гурраaa..!, дзеткі! дагэтуль ні марозу ні сьнегу!

Ці-ж ня шчасьце? Крыху сумна, што сонца ня відаць, але ні холаду, ні голаду, не адчуваем А ўсе-ж такі аб зіме думаць ня перастаем. Ужо даўно кожны гатунак птушак пачаў зьбірацца ў большыя ці меншыя гурткі. Можа ня ведаеце чаму? Бачыце, у летку, калі ўсюды гушчар зеляні кожнай птушцы паасобку лёгка схавацца, лёгка сьцерагчыся ад ворага, а цяпер кусты і дрэвы голыя, птушкі нішто не закрывае, яна заўсёды выстаўленая на небясьпеку. Сядзіць сабе, напрыклад, ды сьнедае, або абедае, занятая, асабліва, калі давядзецца знайсці што смачное, аж тут каршун... і чырыкнуць птушка не пасьпее, як ужо ёй канец... А калі зьбяруцца гурткамі, тады бесьпячней: ставяць вартаўнікоў і ўсё ў парадку. Гэтак сама гурткамі пералятаюць птушкі з мейсца на мейсца, шукаючы найбольш адпаведнага на зімовы час. Трэба вам сказаць, што птушкі ня лётаюць гэтак зусім бяз мэты, не, старэйшыя, больш практычныя, помняць, ды ведаюць ад сваіх бацькоў, а нават дзядоў дзе найлепш зімаваць, дзе найбольш можна знайсьці ежы і зацішных схоўкаў на выпадак веі і туды вядуць цэлы свой гурток. У гэтакія гурткі

зьбіраюцца ў восені сінякі, стрынаткі, шчыглікі, а верабь'і польныя прыбліжаюцца да людзкіх сялібаў і мяшаюцца з хатнімі. Ды наагул, дзеткі, птушкі ахвотна прыбліжаюцца зімой, да Вашых хаткаў у надзеі, што людзі памогуць ператрываць страшны зімовы час. Але трэба прызнацца, што нам спачатку страшна, ох, як страшна... А ведаеце чаму?

Нават прыкра неяк пісаць... Але штож, мы не манім, а праўду кажам, а праўда ня грэх. Ёсьць такія дзеці... не запраўды нам за іх сгыдна... такія нядобрыя, што кідаюць на нас каменьне, і з рагатак страляюць! Ня гневайцеся, дзеткі, можа паміж Вамі гэтакіх няма, але што ёсьць такія, то гэта напэўна, вось нават нашага вераб'я — пісара, што гэты ліст піша, бацьку нейкі хлапец з рагаткі застрэліў...

Так што спачатку боязна... але, як пабачым што дзеці добрыя, небяспекі няма, а калі яшчэ і кармушкі знойдзем, то туды ўжо ўсе грамадой ляцім, і зіму перазімуем і вясной гнязьдзечкі збудуем ды жыць астанемся. А ў падзяку так шкоднікаў лупіць будзем, што і на паказ не астанецца.

— Заўважце дзеткі, што мы ўжо цяпер зімовага прыпынку сабе шукаем, дык не чакайце з падкормліваньнем нас аж пакуль мароз і сьнег настане, а ўжо цяпер, асабліва ў непагодныя дні прыгатоўце для нас што небудзь зьесьці. Крыху якіх зярнят, крошак хлеба, за ўсё будзем ўдзячны.

У сьцюдзёную зіму, хіба найбольш з нас усіх церпіць бедны Сінячок. Ня так ён баіцца марозу як вялікага сьнегу і шаці. Ад холаду бароніць сіняка як і ўсіх птушак яго пушыстая вопротка; але калі вялікі сьнег або шаць пакрые гальлё бедныя сінякі па некалькі дзён ня могуць знайсьці сабе ежы і шмат іх памірае з голаду. У такія дні асабліва помніце аб птушках, а для сінякоў не пашкадуйце кусочка сланіны...

Невялічкі кусочак, абсыпаны макам і падвешаны на нітачцы пракорміць цэлую сямейку сінякоў у працягу тыдня.

Каньчаем ужо гэты ліст, бо робіцца цёмна, а мне верабь'ю-пісару лапка ўжо забалела.

Бывайце, дзеткі здаровыя і вясёлыя, ды помніце аб нашых патрэбах. У наступным лісьце падамо Вам узоры кармушак, а можа і — фатаграфіі

Вашых прыяцеляў:

Верабей, Стрынатка, Сіняк і Шчыглік.

---

# Пытаньні і адказы

ПЫТАНЬНЕ: Ці можна разводзіць ліпы з насеньня і як?

*Язэп Готто.*

АДКАЗ: Нашы звычайныя ліпы вялікалістная і дробналістная, размнажаюцца з насеньня, якое прарастае вельмі цяжка і абавязкава мусіць быць стратыфікаванае, хаця і паміма гэтага часта прарастае на другі год пасьля пасеву. Дзеля гэтага часта размножаюцца ліпы адкладамі, як агрэст. Каб мець магчымасьць рабіць адклады, трэба сабе прыгатаваць г. зв. матачнае дрэва ў форме куста. З гэтай мэтай спілоўваецца старая ліпа, якая ад караня дасьць массу адросткаў (куст, з якіх і робяцца адклады). Шляхотныя адмены ліпаў, як: серабрыстая, амэрыканская, крымская, угорская і г. д. размнажаем ачкуючы іх на нашых звычайных дзічках.

Насеньне ліпы вялікалістнай каштуе 100 гр. 1 зл., 10 грам. — 15 грош. бяз перасылкі.

ПЫТАНЬНЕ: Як забясьпечыць зімуючыя на дварэ пчолы ад шкодных птушак.

*Я. Матылёнак.*

АДКАЗ: Хочучы забясьпечыць пчол ад птушак, найлепш на пчальніку на высокай жэрдзі або на галіне дрэва павесіць на шнурку выпханую варону або каршуна. Можна гэтак сама паставіць паміж вульлямі выпханага ката. Трэба толькі помніць, што калі пчолы стаяць у садзе і мы адтуль зусім выганім птушак, то зробім гэтым самім сабе вялікую шкоду. Дзеля гэтага, калі маем пчолы ў садзе, трэба хаця-б каля плата ці хаты ставіць кармушкі для птушак, або ня ставіць ніякіх пудзілаў, а забясьпечываць выляты, снуючы ўперак іх ніткі, або тоненькі дроцік.

---

# Паштовая скрынка

Гр. *М. Фурса.* Грошы ад Вас атрымалі і часапіс адразу выслалі. Атрымаўшы Вашую пісульку № 5 выслалі паўторна.

Гр. *Ф. Карпенюку.* Просьбу Вашу спаўняем і высылаем на пададзены адрас. За новыя адрасы дзякуем; пробныя вышлём. Пробку зёлак вясной прышліце.

Гр. *Я. Готто.* За весткі з Вашага пчальніка дзякуем. Адказ на пытаньне зьмяшчаем.

Гр. *Я. Матылёнку.* Ці атрымалі ліст з патрэбнымі Вам праўнымі парадамі. Чакаем абяцанай карэспандэнцыі.

Гр. *Аксені Панфілюк.* На просьбу Вашаго мужа высылаем Вам пробны нумар Бел. Борці і падаем адказы на зьмешчаныя ў пісульцы пытаньні. У беларускай мове маем толькі падручнік па пчалярству „Пчолы“ Я. Пачопкі, каштуе з перасылкай 2 зл. 75 гр. Можна выпісаць з рэдакцыі Белар. Борці. Пчолы каўказка-мінгрэльскай расы гадуе гр. Адам Трыпус, Берасьць над Бугам, вул. Вейская 3 і прадае маткі; ці прадае раі ня ведаем, радзім да яго зьвярнуцца.—Кніжкі па пчалярству О. Чынкі ў беларускай мове няма. — Кніжкі аб гадоўлі гусей ня маем. Што тычыцца інкубатара дзеля вываду гусей, то ўжываецца гэты самы, што і для курэй толькі даецца вышэйшая тэмпэратура і больш вільгаці. Мы чулі, што Беларуская Каапэратыўная Таварыства „Пчала“ мае прыступіць да выданьня цэлага раду карэспандэнцыйных курсаў: пчалярскі агародніцтва і садоўніцтва, дробных гадоўляў (гадоўля курэй, кролікаў) і г. д. Радзім Вам з гэтага скарыстаць.

---



---

Рэдагуе Рэдакцыйная калегія: Л. Войцікава, М. Манцэвіч, М. Караленка, А. Войцік.

Адказны Рэдактар і Выдавец: Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк- Вытворча-Гандлёвай Каапэратывы. Вільня, Троцкая вул. 7.

Выдавецтва ветліва просіць усіх прысьпяшыць з урэгуляваньнем залеглых складак, бо несваечасная прысылка грошай пазбаўляе нас магчымасьці акуратна выдаваць часапіс.

Дзеля гэтага пры гэтым № разсылаем блянк разрахунковага пераказу, пры помачы якога грошы можна перасланьць дарма.

---



---

Рэдакцыя Бел. Борці перапрашае паважаных гр. чытачоў за спазьненьне актуальных парадаў, зьмяшчаных у гэтым № часапісі, прычым сьцьвярджае, што спазьненьне наступіла з віны друкарні.

Рэдакцыя.